

Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС


Address: P. O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.

№ 516 Студзень 20
Год выданьня 56


# Шчасьлівага Новага 2006 году і радасных Каляд!

## Рада Беларускай Народнай Рэспублікі

Дарагія і паважаныя мае суродзічы беларусы, дарагія сябры!




Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі маю вялікі гонар вітаць Вас і пажадаць усяго найлепшага ў гэтым годзе.

Суродзічам, раскіданым па сьвеце, жадаю здароўя, добрага самапачуцьця, плёну ў працы і пачуцьця салідарнасьці зь беларускім народам на Бацькаўшчыне, для якога 2005 год быў асабліва бязьлітасным.

Жадаю Вам памятаць свой край і свой народ, і рабіць усё магчымае, каб нашая культура, нашая мова, нашая беларускасьць магла-б калісь вярнуцца ў Беларусь.

Беларускаму народу на Бацькаўшчыне жадаю волі і веры ў свае сілы, бо сапраўды цяжка выкараніць з душы раба, які нас трымае ў няволі. Жадаю, каб памагатыя рэжыму зразумелі, што перад вечнасьцю дабро свайго народу куды важнейшае за часовыя выгады на службе ў цынічнага дыктатара.

Малю Бага, каб у сэрцы кожнага беларуса абудзілася бясконцая любоў да свайго роднага краю і да свайго народу. Бо толькі гэтая любоў выведзе нас на шлях адданага, ахвярнага змагання за лепшую долю Беларусі.

З глыбіні сэрца жадаю ўсім нам стацца вольнымі грамадзянамі незалежнай, шчасьлівай, дэмакратычнай беларускай дзяржавы.

З Новым годам! З новым шчасьцем! Жыве Беларусь!

***Івонка СУРВІЛЛА, Старшыня Рады БНР***

# Пікет у Вашынгтоне

Каля Беларускай амбасады ў Вашынгтоне 16 сьнежня адбыўся пікет з нагоды Дня Салідарнасьці. Акцыя ладзілася моладзёвай арганізацыяй "Студэнты за Глябальную Дэмакратыю", якой кіруе Джонатан Крок. У ёй брала ўдзел і беларуская моладзь, якая прыехала з Вірджыніі, Вашынгтону, Мэрыленду і Паўднёвай Караліны. Салідарнасьць зь беларускім народам таксама выказалі амерыканскія студэнты, якім неабыякавы лёс Беларусі.

## АБ'ЯВА

16 студзеня 2006 году ад 12 да 4 гадз. папаўдні адбудзецца пікетаваньне беларускай амбасады ў Вашынгтоне. Акцыю праводзяць "Студэнты за Глябальную Дэмакратыю" у межах Дня Салідарнасьці, які праходзіць у Беларусі 16-га дня штомесяц. Запрашаем усіх далучыцца да акцыі.

Адрас амбасады: Беларусі: *1619 New Hampshire Ave NW Washington, DC 20009*
Прыпынак мэтро Dupont Circle (Red Line).

Кантакты: Jonathan Crock
тэл.: 202-296-3585




*Марына КУРАЧ і Джонатан КРОК на пікеце.*

# Народнае галасаваньне



***Зянон ПАЗЬНЯК***

Па патрабаваньні Масквы Лукашэнка зьнянацку для беларусаў прызначыў датэрміновыя выбары прэзыдэнта раней патрэбнага часу (на 19 сакавіка 2006 г.). Датэрміновыя выбары, аднак, законна не абгрунтавалі. Расея сьпяшае падтрымаць свайго стаўленьніка, бо тэндэнцыі ў грамадзтве паказваюць, што справы гэтых двух рэжымаў могуць пагоршыцца. Таму робяць што хочуць, не зважаючы на ўспрыняцьце людзей.

Тут разьлік, што калі 19 сакавіка яны праваляцца на выбарах, то па закону Лукашэнка яшчэ амаль паўгода застаецца на пасадзе. Тады пуцінская Масква спадзяецца разьвязаць у Беларусі грамадзянскі канфлікт (вайну) за ўладу і зьліквідаваць законнага новавыбранага прэзыдэнта. Нічога, аднак, у іх ня выйдзе, бо мы іхныя спадзевы бачым.

Зь іншага боку, яны мяркуюць, што зімой ў маразы нам не ўдасца сабраць 150-200 тыс. подпісаў, бо будынкі, дамы, інтэрнаты і іншыя памяшканьні рэжым зьбіраецца заблякаваць. Але й тут яны памыляюцца. У Кіеве ўкраінцы ў час выбараў нават начавалі на вуліцы ў маразы.

Бязьлітаснасьць, несумленны падыход да беларусаў толькі павялічыць народны энтузіязм, нягледзячы на мароз.

Беларусь усяроўна пераможа гэтую чужародную навалу. Усе беларусы памятаюць, як рэжым і ягоная прадажная квазіапазыцыя абдурвалі іх у кастрычніку 2004 году і заганялі на незаконны рэфэрэндум. Народ не павінен быў удзельнічаць у антызаконнай справе рэжымнай улады. А вось цяпер бачым вынік гэтага нібыта «апазыцыйнага» ўдзелу ў антыканстытуцыйным рэфэрэндуме: Лукашэнка зьбіраецца выстаўляць сваю кандыдатуру на выбары, хаця па Канстытуцыі ён ужо ня мае на гэта права. Зноў рыхтуюць фальсыфікатарскае ашуканства, і шмат хто думае, які сэнс тады галасаваць – усяроўна скруцяць і падмануць.

Але сэнс ёсьць. Сілай зьяўляемся мы – народ, а не прамаскоўскі рэжым і ня кучка псэўдаапазыцыйных калябарантаў з Масквой.

Трэба абавязкова ўсім масава ісьці на выбары (рэжым гэтага баіцца), а пасьля галасаваньня не разыходзіцца, а ісьці ў цэнтар Менску на Цэнтральную плошчу, быць разам і чакаць абвяшчэньня вынікаў галасаваньня. (Той, хто жыве бліжэй каля Менску, той пасьля галасаваньня прыязджае ў Менск).

У нашых сілах і ў нашых законных магчымасьцях затармазіць і спыніць машыну фальсыфікацыі. Гэта можа зрабіць кожны беларус і ўсе разам.

Дзеля перамогі народа над фальсыфікацыйнай сыстэмай трэба рабіць **народнае галасаваньне**, сутнасьць народнага галасаваньня ў наступных **дзеяньнях выбаршчыкаў:**

– на ўчастку для галасаваньня выбаршчыкі йдуць са сваімі загадзя падрыхтаванымі бюлетэнямі (альбо з чыстым лістом паперы, тады свой бюлетэнь можна напісаць у кабіне для галасаваньня);

– выбаршчык бярэ бюлетэнь рэжыму, ставіць подпіс у сьпісе і ідзе ў кабіну;

– у кабіне выбаршчык кладзе ў кішэню бюлетэнь рэжыму і дастае свой;

– у скрыню для галасаваньня выбаршчык апускае свой бюлетэнь;

– выбаршчык захоўвае бюлетэнь рэжыму да перадачы яго грамадзкай камісіі.

### Народны бюлетэнь

– На чыстым лісьце паперы выбаршчык піша прозьвішча, імя, імя па-бацьку беларускага народнага кандыдата (альтэрнатыўнага рэжыму), за якога ён галасуе, і ставіць насупраць яго прозьвішча значок (птушачку), а ўнізе ліста ставіць любы васьмізначны лік.

– Тое-ж самае выбаршчык робіць на афіцыйным бюлетэні рэжыму (птушачка насупраць прозьвішча і ўнізе васьмізначны лік такі самы як на народным бюлетэні).

***Заканчэньне на бач. 2***

# Калядная выстава

**На просьбу аўтара, шаноўнай спн. Веры РАМУК з Чыкага, гэтую зацемку падаём па-ангельску.**

The Christmas trees are being decorated each year before the Thanksgiving and are on display through January 7 of the following year. The Christmas trees had been decorated in 2003 and there were 55 of them. This also included Holiday of Lights, the Chinese New Year, Hanukkah, Kwanza, Ramadan, Diwali, Visakha Puja Day, and Winter Soltice. This Christmas season includes 90 Christmas trees. They all were 3-feet tall and on display in Suite 112 of Maria Pappas Treasurer's Office at 118 N. Clark St. in Chicago.

A reception, called Holiday Party, was also held at the same address on December 14th for the decorators and their families, the treasurer's office personnel and other invited guests. There was plenty of sweets, baked goods, coffee and non-alcoholic beverages served, and the program included singing of Christmas carols accompanied on the piano by Maria Pappas herself.

Maria Pappas is of Greek ancestry and she is well liked by Americans of all ethnic backgrounds.



*MARIA PAPPAS, Cook County Treasurer in Chicago, in front of our Christmas tree with Raisa Bratkiv, Maiden Shpakovski, who decorated our Christmas tree this year.*

# Нар. галасаваньне

*заканчэньне з бачыны 1*

Народны (альтэрнатыўны) бюлетэнь будзе зьнешне адрозьнівацца ад бюлетэня рэжыму. Пры адкрыцьці скрыняў адразу будуць відаць вынікі галасаваньня. Васьмізначны лік дапаможа выбаршчыку ў выпадку патрэбы пракантраляваць свой голас. Але хто ня хоча, той можна не пісаць васьмізначны лік. **Галоўнае забраць з сабой бюлетэнь рэжыму і апусьціць у скрыню для галасаваньня свой народны бюлетэнь.**

Беларускі Вызвольны Рух (пры агульнай каардынацыі з боку Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ) стварае **Нацыянальную грамадзкую камісію (НГК)**.

НГК даводзіць да людзей інфармацыю аб парадку народнага галасаваньня. Пасьля галасаваньня НГК арганізоўвае збор і падлік незаконных бюлетэняў рэжыму, якія захоўваюцца ў выбаршчыкаў.

Вынікам усіх гэтых дзеяньняў павінны стаць новыя сапраўдныя дэмакратычныя выбары прэзыдэнта на законных падставах. (Трэба ўлічыць, што нават калі ўлады не дапусьцяць народнага (альтэрнатыўнага) кандыдата да ўдзелу ў выбарах, – усяроўна трэба ставіць у бюлетэні ягонае прозьвішча. Такі прынцып народнага галасаваньня.)

**Удакладненьне**. Выбары не пагрунтаваныя на канстытуцыі – незаконныя. Бюлетэні рэжыму, у якіх упісаны кандыдат, які не мае права балятавацца, – незаконныя.

Народнае галасаваньне ў сыстэме існуючага заканадаўства ёсьць тым часам цалкам законнае дзеяньне і пагрунтаванае на артыкуле трэцім дзеючай канстытуцыі, які запісаны гэтак: «Адзінай крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту ў Рэспубліцы Беларусь зьяўляецца народ. **Народ ажыцьцяўляе сваю ўладу непасрэдна**, праз прадстаўнічыя і іншыя ворганы ў формах і межах, вызначаных канстытуцыяй.

Любыя дзеяньні па зьмяненьні канстытуцыйнага ладу і **дасягненьні дзяржаўнай улады гвалтоўнымі мэтадамі**, а таксама шляхам іншага парушэньня заканоў Рэспублікі Беларусь караюцца згодна з законам».

Дзеяньні выбаршчыкаў у народным галасаваньні нідзе не пярэчаць выбарчаму заканадаўству. Народ мае права на народнае галасаваньне («ажыцьцяўляе сваю ўладу непасрэдна») згодна закона і згодна ўдакладненьня артыкула трэцяга канстытуцыі аб парушэньні закона («і дасягненьні дзяржаўнай улады гвалтоўнымі мэтадамі»). У дадзеным выпадку закон груба парушаецца А. Лукашэнкам, бо ён ня мае больш права балятавацца на прэзыдэнта і ўдзельнічаць у выбарах. Яго дзеяньні характарызуюцца «гвалтоўнымі мэтадамі».

Падкрэсьліваю, што ў пэрыяд выбараў улада па закону ня мае права зьмяняць заканадаўства і прымаць якія-небудзь падзаконныя акты, накіраваныя на абмежаваньне правоў і зьмяненьне магчымасьцяў выбаршчыкаў. Улада ня мае права забараняць партыйную дзейнасьць, распускаць партыі, зачыняць газэты і г. д.

Будзьма сьмелымі і ўпэўненымі ў нашым праве і ў нашай праўдзе.

Паведамляю, што ня гледзячы на перасьлед і вымушанае быцьцё за мяжой, маё права балятавацца і ўдзельнічаць у прэзыдэнцкіх выбарах пацьверджана спэцыяльным рашэньнем Канстытуцыйнага Суду Рэспублікі Беларусь № Р-120/2001 ад 15.06.2001 г.

Як толькі спыніцца прамаскоўскі рэжым і ўсталюецца беларуская народная дэмакратычная ўлада, беларускія суды будуць выконваць законы і паважаць права, а Часовы Беларускі Урад прыступіць да выкананьня сваіх абавязкаў.

Ня баймася! Перамога наша праўда! Перад нашай масавай сілай Масква ня здолее пачаць у нас грамадзянскі канфлікт, бо яны цудоўна ведаюць (і гэтага баяцца), што беларуская армія і беларуская міліцыя стане на бок свайго народу. Нічога Маскве ўжо не дапаможа, ні расейскія генэралы, ні расейская ФСБ, ні падстаўныя кандыдаты. Мы ўсё ведаем, чым яны займаюцца. Яны думаюць ашукаць беларускі народ, але іхная пасьпешнасьць толькі паскорыць крах прамаскоўскай дыктатуры. Набліжаецца канец рэжыму Лукашэнкі.

# Весткі з Аўстраліі

## Паведамленьне

Падаецца да агульнага ведама, што з прычыны сьмерці Старшыні Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі (Аўстралія) сьв. памяці Алега Шнэка на паседжаньні Управы БЦК 6 кастрычніка 2005 году аднагалосна быў абраны новы Старшыня БЦК сп. Янка Барысевіч.

Склад Управы БЦК у Вікторыі: сакратар-скарбнік Аўген Груша, сябры а. Аляксандар Грыцук, Тамара Грыцук і Слава Жук.

## 85-я ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну

### Мэльбурн

У нядзелю 27 лістапада 2005 году Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі супольна з парафіяй БАПЦ Сьв. Віленскіх Пакутнікаў адзначылі 85-я ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну. Пасьля Літургіі а. Аляксандар і а. Юры адслужылі паніхіду па слуцкіх змагарах.

Пасьля паніхіды ўсе прысутныя перайшлі ў царкоўную залю, дзе пасьля перапынку пачалася ўрачыстая акадэмія, прысьвечаная падзеям 1920 году на Случчыне. Адкрыў акадэмію Старшыня Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў Аўстраліі Аўген Груша. Хвілінай цішы ўшанавалі памяць усіх змагароў, якія аддалі свае жыцьці за волю Бацькаўшчыны.

Усе народы, малыя і вялікія, маюць сваіх герояў, якіх яны шануюць. У нас, беларусаў, дзень Беларускіх Герояў прыпадае на 20 лістапада. У гэты дзень мы ўспамінаем усіх нашых герояў, ведамых і няведамых. Перш за ўсё гэта слуцкія змагары, жаўнеры Беларускай Краёвай Абароны, Беларускай паліцыі, Самаахове, актывісты Саюзу Беларускай Моладзі. Мы ўспамінаем удзельнікаў усіх беларускіх вайсковых фармаваньняў.

Потым удзельнікі акадэміі ўсталі й прасьпявалі жалобны марш "Сьпі пад курганам герояў". Тады Старшыня БЦК Янка Барысевіч прачытаў вельмі змястоўны рэфэрат на тэму дня, які падрабязна асьвятліў падзеі лістападу 1920 году на Случчыне. Хоць Слуцкі Збройны Чын і быў пераможаны перавышаючай сілаю, але ён засьведчыў, што беларусы могуць адстойваць сваю волю і незалежнасьць са зброяй у руках.

Пасьля Аўген Груша прадэклямаваў верш Тодара Лебяды "Ліст з Сібіры". На гэтым урачыстая частка акадэміі скончылася, і прысутныя адсьпявалі беларускі нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Вечная слава слуцкім змагарам!

***Аўген ГРУША***

### Сыднэй

Канец лістападу для нас, беларусаў – час жальбы, час успамінаў пра геройчны чын слаўных случчакоў і неўміручы наказ на тое, што за волю і свабоду трэба змагацца, трэба крывёю замацаваць гэтыя імкненьні.

У нядзелю 27 лістапада 2005 году беларусы Сыднэю ўрачыста адзначылі гэты дзень. Пачалося сьвяткаваньне ў Гомэбушскай праваслаўнай царкве, дзе пасьля Літургіі а. Ігар Хлябіч адслужыў паніхіду "па ваярох, якія змагаліся за сваю краіну, за сваю дзяржаву". Малітвы а. Ігар чытаў па-беларуску, на мове, якою ён дасканала валодае і ніколі не цураецца.

З царквы перайшлі ў Беларускі Культурна-Грамадзкі Клюб, дзе ў прыбранай залі сталі накрытыя нашымі гаспадынямі сталы. Акадэмію адкрыў Старшыня Клюбу М. Лужынскі і перадаў слова Вячаславу Элькановіч, які зрабіў цікавы і зьмястоўны рэфэрат аб Слуцкіх падзеях 1918 году. Сп. Элькановіч, журналіст, лінгвіст і перакладчык, вельмі ўмела робіць свае прамовы, таму і гэтым разам слухачы ўзнагародзілі яго выступленьне шчырымі воплескамі.

Хвілінаю цішы ўшанавалі памяць загінуўшых на Случчыне ваяроў, а таксама ўсіх тых, хто палеглі за Беларусь.

Дзякуючы нашым гаспадыням, абед меў разнастайныя і вельмі смачныя стравы й напоі.

***Міхась ЛУЖЫНСКІ***

**Віншуем шматгадовага кіраўніка Беларускага Культурна-Грамадзкага Клюбу і ўсёй беларускай грамады ў Сыднэі (Аўстралія) шаноўнага спадара Міхася ЛУЖЫНСКАГА з 80-годзьдзем зь дня нараджэньня. Зычым выдатнага здароўя, памыснасьці ў штодзённых справах, натхненьня і шмат цудоўных навінаў з Бацькаўшчыны.**

# Удакладненьні

У "Беларусе" №514 у сьпісе ахвярадаўцаў было памылкова напісана, што $50 замест кветак на магілу Арсеня Моніда ахвяраваў М. Маркевіч. Трэба чытаць **Антон Маркевіч**.

У "Беларусе" №515 у рэцэнзіі М. Шведзюка на кнігу Яна Булгака было памылкова напісана: *"...Булгак Ігнат Юзафат, быў япіскапам Брэсцкім і Мітрапалітам, які перад скасаваньнем Уніі прымушаў вернікаў ісьці назад у праваслаўе..."* Трэба чытаць: *"Япіскап і мітрапаліт Брэсцкі Булгак Ігнат Юзафат быў працяўнікам скасаваньня Уніі і прылучэньня грэка-каталікоў (уніятаў) назад у праваслаўе."*

# Беларусь за месяц

## На выбары некалькі калёнамі

Цэнтральная выбарчая камісія па правядзеньні выбараў і рэфэрэндумаў зарэгістравала ўсе восем ініцыятыўных групаў кандыдатаў у прэзыдэнтаў, што падавалі заяўкі.

Пра ўдзел у выбарах, апроч **Аляксандра Лукашэнкі** й лідэра Лібэрал-дэмакратычнай партыі, спарынг-партнёра Лукашэнкі, **Сяргея Гайдукевіча** заявілі (у альфабэтным парадку): былы прэзыдэнт Акадэміі навук **Аляксандар Вайтовіч**; старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, экс-рэктар БДУ **Аляксандар Казулін**, якога таксама называюць праектам Адміністрацыі Лукашэнкі; кандыдат ад аб'яднаных дэмакратычных сілаў **Аляксандар Мілінкевіч**; лідэр КХП—БНФ **Зянон Пазьняк**; экс-дэпутат, лідэр апазыцыйнай парлямэнцкай групы "Рэспубліка" **Сяргей Скрабец**, які цяпер знаходзіцца ў турме па абвінавачаньні ў выманьваньні крэдытаў; генэрал **Валер Фралоў** — таксама кандыдат ад сацыял-дэмакратаў. 9 студзеня **А. Вайтовіч** зьняў сваю кандыдатуру з выбараў.

Цяпер ініцыятыўныя групы зьбіраюць па 100 тыс. подпісаў у падтрымку свайго кандыдата, рэгістрацыя якіх пройдзе з 12 па 21 лютага.

Выбары прэзыдэнта пройдуць 19 сакавіка 2006 году, на чатыры месяцы раней меркаванага тэрміну. Экспэрты тлумачаць перанос выбараў жаданьнем улады не дапусьціць росту рэйтынгу А. Мілінкевіча, і, наадварот, зьніжэньня рэйтынгу А. Лукашэнкі.

## Сацыялёгія пра выбары

Паводле зьвестак Балтыйскай філіі службы Гэлапа, паведамляе Радыё "Свабода", на адкрытае пытаньне (калі апытаныя мусілі самыя ўпісаць прозьвішча кандыдата), 53.1% назвалі Лукашэнку, 10.1% — Аляксандра Мілінікевіча, 2% — Анатоля Лябедзьку.

На пытаньне, які-б выбар зрабілі паміж Лукашэнкам і Мілінкевічам, сёньняшняму кіраўніку аддалі перавагу 53%, а вось рэйтынг кандыдата ад аб'яднанай апазыцыі склаў 21%.

У апытаньні, праведзеным у сьнежні групаю прафэсара Манаева, на пытаньне "Які выбар Вы зробіце паміж Лукашэнкам і Мілінкевічам, Лукашэнкам і Казуліным, Лукашэнкам і Пазьняком" найлепшыя лічбы з апазыцыйных кандыдатаў аказаліся ізноў-жа ў Мілінкевіча.

У пары Лукашэнка—Мілінкевіч за першага былі гатовыя аддаць свае галасы 55% апытаных, а за Мілінкевіча — 18%. У пары Лукашэнка–Пазьняк за лідэра Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ выказаў гатоўнасьць прагаласаваць кожны дзясяты апытаны.

Між тым сацыялягічная служба "Экаом" даводзіць, што паводле ейных зьвестак за Лукашэнку гатовы прагаласаваць ажно 75% выбарцаў.

## Аўтуховіч галадаў 74 дні

27 сьнежня ваўкавыскага прадпрымальніка Мікалая Аўтуховіча выпусьцілі з-за кратаў. Жыхары Ваўкавыску сабралі тысячу подпісаў за тое, каб Аўтуховічу зьмянілі меру стрыманьня, і накіравалі подпісы ў адміністрацыю Лукашэнкі. Адтуль просьбу перадалі ў генпракуратуру, і прадпрымальніка, што быў у турмах у Горадні і Менску вернулі ў Ваўкавыск.

М. Аўтуховіч, уласьнік фірмы, што займаецца пасажырскімі перавозкамі, трымаў галадоўку з 14 кастрычніка (74 дні). На праваслаўны Пакроў яго арыштавалі ў Горадні па абвінавачаньні ў няўплаце падаткаў. Галадоўкаю Мікалай Аўтуховіч пратэставаў супраць незаконнага арышту і крымінальнага перасьледу, страціўшы за 74 дні 40 кг сваёй вагі.

## Закон аб дыскрэдытацыі

А. Лукашэнка падпісаў закон 15 сьнежня. Дакумэнт рэглямэнтуе зьмяненьні й дапаўненьні ў Крымінальны кодэкс, якія прадугледжваюць адказнасьць у выглядзе пазбаўленьня волі да пяці гадоў "за дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь і органаў улады, за заклікі, якія могуць нанесьці ўрон краіне, дэстабілізацыю сытуацыі і іншыя дзеяньні". Першыя крымінальныя справы былі заведзеныя ў канцы сьнежня на актывістаў арганізацыі "Зубр".

## Прэміі "Хартыі'97"

Грамадзкая арганізацыя "Хартыя'97" уручыла прэміі за 2005 год у галіне абароны правоў чалавека — "За грамадзянскую мужнасьць". Паказальна, што ніхто з пэрсанальных ляўрэатаў ва ўручэньні ўдзелу ня браў. Андрэй Клімаў, Павал Севярынец, Мікола Статкевіч адбываюць пакараньне на "хіміі" за палітычную дзейнасьць. Экс-дэпутат і бізнэсовец Сяргей Скрабец і ваўкавыскі прадпрымальнік Мікола Аўтуховіч знаходзіліся ў той час у турме. За згаданых людзей прэміі атрымалі жонкі й паплечнікі.

Сярод грамадзкіх арганізацыяў прэміі атрымалі Нацыянальны гуманітарны ліцэй імя Я. Коласа і Саюз палякаў Беларусі, што ўзначальвае Анжаліка Борыс.

## "Народнай волі" адмовілі

Гаспадарчы суд Менску спыніў 15 сьнежня справу паводле пазову газэты "Народная Воля" да "Белпошты". Рэдакцыя адзінай штодзённай апазыцыйнай газэты ў краіне (наклад нумару — 27 тыс. асобнікаў) дамагалася прымусіць "Белпошту" ўключыць газэту ў падпісны каталёг на 2006 год. У кастрычніку "Народную волю" выкінулі з газэтных шапікаў, і цяпер яе можна толькі ў рэдакцыі ці грамадзкіх распаўсюднікаў. У канцы сьнежня "Народная воля" на месяц абвясьціла падпіску праз рэдакцыю.

Як пісаў "Беларус", у падпісны каталёг на 2006 год і з газэтных шапікаў выкінулі 17 незалежных газэтаў — як цэнтральных, так і рэгіянальных. Сярод іх "Салідарнасьць", "Наша Ніва" "Згода", "Вольнае Глыбокае", "IntexPress" (Баранавічы), "Брестский курьер", "Газета Слонімская", "Витебский курьер" і інш.

"Салідарнасьць" спыніла існаваньне, "Наша Ніва" перайшла на фармат A4, "Белорусская деловая газета" — будзе выдавацца раз на тыдзень, хоць яшчэ тры гады таму выходзіла чатыры разы.

## Дзень салідарнасьці

У сьнежні ў Беларусі прайшоў трэці па ліку Дзень салідарнасьці. Ён адзначаецца 16-га дня кожнага месяцу ў знак салідарнасьці з ахвярамі палітычных рэпрэсіяў, зьніклымі апазыцыянерамі й журналістамі. А 8-й гадзіне вечара грамадзянам прапануецца выключыць сьвятло ў вокнах кватэраў і офісаў і паставіць сьвечкі.

Гэтым разам да Дня салідарнасьці праявіла цікавасьць міліцыя. На менскай вуліцы Магілёўскай, дзе 7 траўня 1999 году бясьсьледна зьнік экс-міністар нутраных справаў Юры Захаранка, міліцыянты перапісалі зьвесткі журналістаў расейскіх тэлеканалаў, якія здымалі сьвечкі ў вокнах кватэраў.

У студэнцкіх інтэрнатах 16 сьнежня ўвялі камэнданцкую гадзіну. Адміністрацыя шэрагу інтэрнатаў забараніла пасьля 6-й вечара выходзіць на вуліцу, а а 8-й ва ўсіх пакоях мусіла гарэць сьвятло.

## На двух крэслах

9 сьнежня ў Менску прайшоў нечарговы сход Саюзу беларускіх пісьменьнікаў (далей — СБП). Каб склікаць правадзейны зьезд не хапіла кворуму. Сход быў выкліканы стварэньнем 18 лістапада ляяльнага беларускім уладам Саюзу пісьменьнікаў Беларусі (далей — СПБ). На сходзе была выказаная падтрымка кіраўніцтву на чале з Алесем Пашкевічам і выключаныя з шэрагаў Саюзу ўдзельнікі зьезду 18 лістапада — старшыня СПБ Мікалай Чаргінец і яговыя паплечнікі Георгі Марчук, Раіса Баравікова, Анатоль Аўруцін, Анатоль Сульянаў, Алесь Марціновіч, аўтар словаў новага старога гімну РБ Уладзімер Карызна — усяго 12 чалавек. Дзеля справядлівасьці адзначым, што гэтыя людзі самыя напісалі заявы пра выхад з арганізацыі.

Цікава, што ў пралукашэнкаўскім зьездзе ўзялі ўдзел 125 чалавек, у сходзе 9 сьнежня — 200 чалавек, прычым каля сарака асобаў паўдзельнічалі ў абодвух зьездах. Усяго членаў Саюзу пісьменьнікаў — 560. І роўна палова зі іх альбо ня вызначылася, альбо ёй усё роўна, хто стаіць на чале арганізацый, і якія мэты пісьменьніцкія суполкі перасьледуюць.

## БХК аштрафавалі

Прэзыдыюм Вышэйшага гаспадарчага суду загадаў Беларускаму Гэльсінскаму камітэту сплаціць падаткі з замежных грантаў, якія, згодна з міжнароднымі дамовамі, раней не абкладаліся падаткамі. ВГС адмяніў ранейшыя рашэньні гаспадарчых судоў па справе БХК і прызнаў сапраўднымі прэтэнзіі падатковай службы да БХК, паводле якіх праваабаронная арганізацыя мусіць сплаціць каля $75 тысяч даляраў падаткаў і штрафу.

Праваабаронцы мяркуюць, што гэта першы крок да рэпрэсіяў у дачыненьні да БХК, наступным мае стаць закрыцьцё арганізацыі.

## Зноў несвабодныя

Па выніках мінулага году Беларусь у штогадовым дакладзе амэрыканскай праваабарончай арганізацыі Freedom House названая "несвабоднай краінай". Даклад разглядае пэрыяд з 1 сьнежня 2004 году па 30 лістапада 2005 і аналізуе стан свабоды ў 192 краінах сьвету. 45 краінаў названыя "несвабоднымі". Сярод іх Беларусь, Расея, Азэрбайджан, Узбэкістан, а таксама Куба, Паўночная Карэя, Эрытрэя.

## Бюджэт зацьверджаны

Парлямэнт зацьвердзіў праект на наступны год. Бюджэт прадугледжвае даходы на 25,51 трлн. рублёў, што на 26% болей, чым летась, расходы на 26,64 трлн. руб. (на 24%) больш. На эканоміку пойдзе 993 млрд рублёў, на ахову здароўя — 754,5 млрд, у той час як на праваахоўную дзейнасьць і бясьпеку — 1,486 трлн, войска — 910 млрд. руб. На "адраджэньне" вёскі выдаткуюць 2,36 трлн. руб.

## Вярнуліся ў эліту

Моладзевая хакейная зборная Беларусі па хакеі з шайбаю (век гульцоў — да 20 гадоў) вярнулася ў найвышэйшы дывізіён сусьветнага хакею, адкуль вылецела год таму. У турніры, што прайшоў з 12 па 18 сьнежня ў менскім Палацы спорту, гадаванцы Эдуарда Занкаўца занялі першае месца. Турнір з удзелам беларусаў пройдзе ў канцы сьнежня 2006 г. — пачатку студзеня 2007 году ў Швэцыі.

*Уласны карэспандэнт*

# Як ідзе збор подпісаў за вылучэньне ў кандыдаты ў прэзыдэнты

Паводле зьвестак на 11 студзеня, за вылучэньне кандыдатам у прэзыдэнты Беларусі Сяргея Гайдукевіча сабрана больш як 66 тысяч подпісаў. За Аляксандра Казуліна падпісаліся каля 80 тысяч выбарцаў. Ініцыятыўная група Аляксандра Мілінкевіча сабрала каля 82 тысяч подпісаў. У штабе Зянона Пазьняка паведамляюць, што колькасьць выбарцаў, якія падпісаліся, перавысіла 40 тысяч. Пакуль ніякай інфармацыі пра подпісы не падаюць ініцыятыўныя групы Аляксандра Лукашэнкі, Сяргея Скрабца і Валерыя Фралова.

Тым часам, дзяржаўнае агенцтва БелТА са спасылкаю на крыніцы ў ініцыятыўнай групе Лукашэнкі паведамляе, што гэтая група сабрала ўжо 930 тысячаў подпісаў выбарцаў.

Штабы прэтэндэнтаў падлічваюць сабраныя подпісы і заяўляюць пра ўціск і перашкоды з боку ўладаў пры зьбіраньні подпісаў.

*Радыё Свабода*

***На здымках: збор подпісаў на вуліцах Менска за З. Пазьняка (зьлева) і А. Мілінкевіча (справа).***






# Успаміны нашых чытачоў

## Скаўцкі зьлёт-джэмбэры

Пасьля Другой сусьветнай вайны ў Нямеччыне людзі пазьвяжджаліся ў лягеры "перамешчаных асобаў" (ДП). У Ангельскай зоне акупацыі быў вялікі лягер у горадзе Ватэнштат, які складаўся з частак "А", "В" і "С". Будынкі часткі "А" разабралі для ацяпленьня баракаў, бо спачатку не прывозілі вугаль для аграваньня. Людзі вечарамі й ночу цягалі дошкі, і, дзякуючы гэтаму, трымалі жытло цёплым і гатавалі ежу.

Улетку быў зьезд скаўтаў - джэмбэры ў Амэрыканскай зоне бліз гораду Нюрнбэргу. Скаўты прыехалі туды цягніком, а ў лясны лягер нас прывязьлі грузавіком. У прыгожым лесе было шмат намётаў з паходнымі ложкамі. Лягер быў падзелены на пяць частак, якія насілі назвы частак сьвету: Эўропа, Амэрыка, Азія, Афрыка, Аўстралія. Нам давялося быць у лягеры пад назовам Афрыка, і, як я памятаю, каля нашых двух намётаў былі французкія скаўты. Я пасябраваў з адным зь іх, якога звалі Маркам. Ён наведваўся да нас амаль штодня даведацца, што за стравы гатавалі ў нас на кухні на абед. Найчасьцей мы мелі суп з падсмажкай або безь яе. Калі кухары нядобра гатавалі, то іх замянялі іншымі.





Сп. Кастусь Верабей падчас жыцьця ў лягеры ДП.

У шматнацыянальным джэмбары мы камунікавалі зь іншымі скаўтамі па-нямецку. У мяне там быў яшчэ адзін прыяцель харват, які навучыў мяне сьпяваць па-харвацку песьню "Мартыралю". Такім чынам мы мелі шырокі абмен думкамі з нашымі равесьнікамі з іншых краінаў. Вельмі прыязныя адносіны былі з украінцамі, бо ў іх былі тыя самыя думкі, што і ў нас, аб вызваленьні свайго краю ад расейскай камуны.

Харч нам выдавала UNRA. Штораніцы мы мыліся, а потым падымалі наш белчырвона-белы сьцяг, які спускалі з заходам сонца.

Назьдзіў потым мы даведаліся, што ў лягеры былі й расейскія скаўты. Сьпярша мы думалі, што гэта дзеці савецкіх вайскоўцаў з савецкай зоны акупацыі, але гэта было ня так. Аднойчы я размаўляў з адным такім расейцам і запытаў яго, як ён не баіцца называцца расейцам, калі савецкія вайскоўцы паўсюль ловяць былых савецкіх грамадзянаў, каб потым вывезьці іх назад "на Родзіну"? Хапалі тады ня толькі расейцаў, але і беларусаў з украінцамі, не надта зважаючы на тое, у якой краіне яны жылі да вайны. Ён мне адказаў, што ня мае грамадзянства і знаходзіцца пад абаронаю нейкага міжнароднага закону.

Аднойчы вечарам усе скаўты сядзелі ля вогнішча і спаборнічалі, якая нацыянальная група найлепш засьпявае сваю песьню. Лепшыя павінны былі атрымаць узнагароду. Падчас сьпеву адной групы другая павінна была трохразова падтрымліваць іх гучнымі заклікамі. Мы, беларусы, ухваляючы крычалі: "Добра, добра, вельмі добра!" Чуваць былі й выгукі паангельску: "Good good very good!". Украінцы крычалі: "Гарна, гарна, дужэ гарна!" І гэтак на ўсіх мовах. Калі была нашая чарга сьпяваць песьню, то расейцы падтрымалі нас выкрыкам: "Паразі, паразі, паразіцельна!" Ніхто з нас ня чуў, каб гэтае слова было пахвальбою. Яно нам нагадвала слова "паразіт". Таму ўсе вырашылі, што расейцы крычалі гэта, толькі каб абразіць нас. Каб нешта падобнае мы пачулі ад якой іншай групы, то, магчыма, праігнаравалі-б, але толькі не ад расейцаў. Калі ўсе пачалі разыходзіцца да сваіх намётаў, нашыя хлопцы вырашылі ісьці да расейцаў і адпомсьціць за тое, што яны зьдзекваюцца над намі яшчэ і ў Нямеччыне. Хацелі хоць аднаму зь іх усадзіць нож пад рэбры. Такія ў нас былі ўяўленьні. Аб нашым намеры нейкім чынам даведаўся кіраўнік скаўтынгу і паабяцаў разгледзець гэтую справу заўтра, а на гарачую руку нічога не рабіць. Назаўтра былі іншыя заданьні, іншыя гульні, заняткі, і ўсё гэта трохі ахаладзіла наш намер. Тым больш што кіраўнік, патлумачыў, што выкрык расейцаў ня быў абразьлівым на іх мове.

Пазьней мы наведалі спартыўную арэну, якая пасьля сканчэньня будаўніцтва павінна была стаць найбольшаю ў Эўропе, але вайна не дала скончыць будову.

Хутка да нас прыехалі бацькі, якія хацелі даведацца, як мы жылі ў лесе, ці сумавалі мы па іх і па хатняй ежы.

Па заканчэньні джэмбэры запрасілі жыхароў навакольля, для якіх скаўты сьпявалі й паказвалі розныя жарты.

Вярталіся ў свой лягер мы цягніком, мусілі пераначаваць і зрабіць перасадку ў Мюнхэне, бо ехалі мы з адной зоны акупацыі Нямеччыны ў другую, а межы паміж імі ў той час былі як паміж рознымі краінамі. Часам нам шанцавала ехаць у першым клясе. Дарогу нам аплочвала UNRA. Нас часта дапытваліся, што мы за скаўты, бо на кашулях мы мелі надпіс "KRYVIA", але ўніформа была амэрыканская. Шмат хто думаў, што мы прыехалі з Амэрыкі.

Час у лесе мы правялі добра і яшчэ лепш адпачылі, бо наш лягер быў разьмешчаны ў прамысловым раёне, дзе з фабрычных трубаў ляцела сажа, і ўсё было ёю забруджана.

Вось такія ўспаміны захаваліся ў маёй памяці зь лягернага жыцьця ў Нямеччыне.

**Кастусь ВЕРАБЕЙ**





Групы беларускіх скаўтаў у лясным лягеры на зьлёце-джэмбэры.

## Ліст ў рэдакцыю

У "Беларусе" № 514 Антон Маркевіч у рубрыцы "Пішам гісторыю Беларусаў Канады" распавёў пра сваю працу ў выдавецкім фондзе "Пагоня". Як старшыня гэтага фонду, які выдаў і некаторыя мае кнігі, пасылаю з архіву вытрымкі з справаздачы, дзе гаворыцца пра дзейнасьць Антона Маркевіча.

**Што сталася з "Пагоняй"**

*"Кніга К. Акулы "Ўсякая ўсячына" выйшла ў 1984 годзе. Мяккая вокладка, 136 бачын. Тыраж 500 штук.*

*Кніга К. Акулы "За волю" выйшла ў 1991 годзе. Мяккая вокладка, 172 бачыны. Апавесьць базаваная на эміграцыйным жыцьці Беларусаў ў Канадзе. Тыраж 500.*

*На пачатак сакавіка 1994 году "Пагоня" мае звыш 5 тыс. даляраў доўгу.*

Некалі выдавецка-мастацкі клюб "Пагоня" меў шанцы стаць паважнай выдавецкай фірмай. Галоўная перашкода – не знайшлося сумленнага, адказнага і руплівага чалавека на пазыцыю скарбніка і сакратара.

Антон Маркевіч за першыя сем гадоў існаваньня "Пагоні" ня даў ніводнае фінансавае справаздачы. Ад 12.06.1976 году старшыня завёў фінансавую кнігу, дзе рэгістраваліся прыходы й выдаткі.

Добрым прыкладам, як працаваў А. Маркевіч у "Пагоні" ёсьць такі выпадак. Зь Менску замовіў ён 12 камплектаў энцыкляпэдыі выданьня Бел. СЭ. Унівэрсытэты ў Канадзе ў Кінгстане, Лёндане, амэрыканскі ў Чыкага замовілі ў "Пагоні" камплекты энцыкляпэдыі. Мне Антон Маркевіч ніколі не казаў, калі ён выслаў замоўленыя кнігі. Але гады чатыры пасьля, праўдаючы Антонаву дзейнасьць, я знайшоў лісты з гэтых унівэрсытэтаў, дзе яны паведамлялі аб скасаваньні сваіх замоваў, бо за чатыры гады нічога так і не атрымалі.

Знайшоўся й ліст з Публічнай бібліятэкі ў Чыкага на адрас скарбніка / сакратара А. Маркевіча, дзе было напісана:

*"...калі Вы не прышлеце рахунку (ужо трэці раз Вам нагамінаем) за высланыя нам свае кнігі; то будзем лічыць, што кнігі вы прыслалі для нас дарма."*

Памятаю давялося мне пазнаходзіць адпаведныя інфармацыі, што было ў Чыкага выслана. За тую замову пайшоў у амэрыканскую бібліятэку рахунак на 178 даляраў. І мне, на вялікі жаль, давялося зразумець, што Антон Маркевіч нарабіў...

Пра прычыны такой "помачы" ня бачу патрэбы гаварыць.

**К. АКУЛА**




# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org № 1 (480)


# Сьнежаньскі сход аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку

Чарговы сход Нью Ёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня адбыўся 11 сьнежня 2005 году. Сход быў прысьвечаны памяці Францішка Бартуля, выдатнай фігуры беларускай грамады ў Амэрыцы, беларускага патрыёта, шматгадовага актыўнага сябра аддзелу, арганізатара, дабрадзея, старшыні Фундацыі імя П. Крэчэўскага.

З уступным словам пра Францішка Бартуля выступіў старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка. Ён падаў кароткі жыцьцяпіс нябожчыка і падкрэсьліў тую вялікую ролю, якую сьв. пам. Францішак Бартуль адыграў у жыцьці беларускіх суполак у Амэрыцы, Вялікай Брытаніі ды беларускай дыяспары наагул. «Нарадзіўшыся ў 1918 годзе ў Латгаліі, на абшары, што зьяўляецца часткай беларускай этнічнай тэрыторыі, Ф. Бартуль змалку ўвабраў у сябе павагу да Бога, да працы і да свайго народу. Праз хатняе выхаваньне і праз адукацыю ў беларускай школе й гімназіі Ф. Бартулю была прышчэпленая моцная беларуская сьведамасьць, якую трымаў ён да канца жыцьця.

Падчас Другой сусьветнай вайны Ф. Бартуль разам зь іншымі змагаўся за правы беларускага народу на свабоду і незалежнасьць, дапамагаў суродзічам пераносьці ваеннае ліхалецьце. Пасьля вайны ён апынуўся ў Англіі, дзе стаў адным з заснавальнікаў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі (ЗБВБ). Пасьля, перабраўшыся ў Злучаныя Штаты, Ф. Бартуль актыўна далучыўся да дзейнасьці Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня й Рады БНР, узначаліў Фундацыю імя П. Крэчаўскага. Ён аказаў падтрымку шматлікім маладым імігрантам у ЗША, фундаваў вялікую колькасьць выдавецкіх і культурніцкіх праектаў. "Гэты энэргічны, тварыскі, вясёлы чалавек назаўсёды застанецца ў сэрцах людзей, што ведалі яго, з кім разам рабіў ён агульную беларускую справу. Вечная памяць!»

Затым са словам пра Францішка Бартуля выступіў Старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. Антон Шукелойць. Ён у прыватнасьці адзначыў: "Жыцьцё Францішка Бартуля —гэта вельмі багатае жыцьцё, годнае для насьледаваньня маладога пакаленьня. Асоба Францішка — сьветлая, жыцьцярадасная, прыязная да ўсіх. Нялёгкі быў ягоны жыцьцёвы шлях, давялося і вучыцца, і цяжка працаваць, і ваяваць — але ўсе выпрабаваньні Францішак Бартуль прайшоў годна. У Англіі ён навучыўся дантыстычнай тэхнікі, здабыў прафэсію, што забясьпечыла далейшае жыцьцё. Ён быў старшынём каталіцкай арганізацыі (Беларускага Каталіцкага Таварыства), браў удзел у Эўхарыстычным Кангрэсе ў Філядэльфіі, намагаўся дабіцца стварэньня беларускай каталіцкай парафіі ў Нью Ёрку. У якасьці старшыні Фундацыі імя Крэчэўскага Ф. Бартуль фундаваў выданьне часапісу "Запісы БІНіМ", газэты "Беларус", шматлікіх кнігаў, кружэлак, іншых беларускіх культурніцкіх праектаў як у вольным сьвеце, так і на Бацькаўшчыне. Асобна трэба зазначыць падтрымку для імігрантаў і палітычных уцекачоў. Дзякуючы стараньням Ф. Бартуля Беларуская Бібліятэка і Музэй імя Ф. Скарыны ў Лёндане займелі арыгінал выданьня Статуту Вялікага Княства Літоўскага, які Ф. Бартуль перадаў біскапу Ўладыку Чаславу Сіповічу. Там-жа, дзякуючы стараньням Ф. Бартуля, цяпер знаходзяцца старадаўні Аль Кітаб (рэлігійная кніга беларускіх татараў, пісаная па-беларуску арабскімі літарамі), фрагмэнты каштоўнага Слуцкага поясу ды іншае. Ахвярнасьць і працавітасьць Францішка Бартуля — гэта прыклад для нашай моладзі, як варта пражыць плённае і багатае жыцьцё."

Старшыня парафіяльнай Рады Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага сп. Барыс Данілюк таксама падзяліўся ўспамінам пра Ф. Бартуля: "Ён быў актыўным каталіком, але вось мы сёньня ўспамінаем яго тут, у праваслаўным Саборы, дзе адбылася паніхіда па ім, каталіку. Нябожчык быў прыкладам хрысьціяніна і шанаваў традыцыю сваіх братоў-праваслаўных. У нашым народзе, у нашых сем'ях ёсьць людзі розных веравызнаньняў, але мы мусім рабіць паводле Хрыстовай навукі — помніць сваё веравызнаньне ды змагацца разам за Беларусь. Францішак Бартуль быў менавіта такім узорам хрысьціяніна і змагара.»

Са словам пра нябожчыка выступіў скарбнік Нью Ёрскага аддзелу сп. Валеры Дворнік. Ён узгадаў асобу Ф. Бартуля як добрага сябра і заклікаў моладзь па прыкладу гэтага чалавека абараняць культуру і традыцыі беларусаў.

Паэт і бард сп. Сяржук Сокалаў-Воюш прачытаў урывак з свайго эсэ, прысьвечанага Францішку Бартулю, дзе ўзгадаў прынцыпы (сем правілаў) ягонага жыцьця. Напрыканцы сходу ў выкананьні сп. Сокалава-Воюша прагучала ягоная славутая песьня «Беларусь мая (Аксамітны летні вечар...)», якую падпявала ўся зала.

**Віталь ЗАЙКА**

## ПАДЗЯКА

Шчырая падзяка ад Беларускага Народнага Фронту спадару Валеру ДВОРНІКУ за ахвяраваньне адной тысячы даляраў на культурна-асьветніцкую і выдавецкую беларускую справу.

*Зянон ПАЗЬНЯК*

*Старшыня БНФ "Адраджэньне"*

## Уплаты ў нью ёркскі аддзел БАЗА:

**Ахвяраваньні й складкі:**

| | |
|---|---|
| А. Данілюк | 30 |
| А. Лістоўская | 30 |
| П. Сыантовіч | 30 |
| Л. Харытоненка | 30 |
| І. Храпава | 30 |
| І. Чапля | 30 |

**Замік кветак на магілу Яніны КАХАНОЎСКАЙ:**

| | |
|---|---|
| А. і Ў. Лаўлор | 30 |

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты дасылайце на адрас:**
*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*
**Чэкі выпісвайце на** *Belarusan American Association.*

# Ахвярная праца

Вось ужо каторы месяц крок за крокам сіламі беларускіх вернікаў адбываецца рамонт будынку Сабора Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Будынак Сабору вельмі стары, застаўся яшчэ ад галяндцаў і зьяўляецца гістарычным помнікам. Цяпер, калі Беларуская Праваслаўная Аўтакефальная Царква зноў аб'ядналася і дасягнула адзінства, беларусы нечакана ледзь ня страцілі савайго Сабору, які мэтанакіравана апанавалі былі чужыя беларушчыне людзі. Аднак навалу ўдалося ліквідаваць, і беларусы ўзяліся за аднаўленьне будынку сваімі рукамі.

Масавага энтузіязму не ўзьнікла, але станоўчых прыкладаў шмат. Ёсьць вернікі, якія дабраахвотна працуюць з дня ў дзень дзеля добрай агульнай справы, ахвяруючыся сваім часам і асабістымі затратамі. Кожную суботу там можна бачыць Міколу і Ліну Сагановічаў, Анатоля Колбуна, Міколу і Зою Вашкевічаў, Васіля Кузьменку і іншых, якія прыходзяць дапамагчы беларускай справе. Тут я назваў-бы перш за ўсё Расьціслава Гарошку, Віктара Дударава, Сяргея Капытку, Івана Кудзіна, Віталя Міхноўскага, Андруса Падлескага, Віталя і Ларысу Пузачаў, Уладзімера Цяліцу, Віталя Буноса, Сяргея Шчэрбацэвіча ды іншых.

Ёсьць прыклады, што патрабуюць асаблівага адзначэньня. Тут я адзначыў-бы перш за ўсё энтузіязм Міколы і Ліны Сагановічаў і асабліва працу верніка нашай Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы – Валеры Гойдзя. Ён уласьнік кампаніі, якая ўсталёўвае калярыфэры, вэнтыляцыю і кандыцыянэры, і акурат ён са сваімі работнікамі робіць гэтую складаную і працаёмкую працу ў царкве. Па расцэнках парафіяльная ўправа за ўсё павінна была заплаціць 45 тыс. даляраў разам з абсталяваньнем. Зь іх 33 тыс. склалі-б выдаткі за працу. Іншы амэрыканец, ці які-небудзь "расеяц бруклінскі" гэтак-бы і патрабаваў. Тым часам Валеры сьведама адмовіўся браць грошы з сьвятыні й працуе задарма ў ахвяру на добрасьць Беларускай Царквы.

Хвала людзям, якія ахвяруюцца дзеля Бога і Беларусі! Але памятаймa, што калі-б працаўнікоў-дабраахвотнікаў прыходзіла не 20, а 100 чалавек, то і гора-б мы даўно ня ведалі. А гэта, тым часам, магчыма і, спадзяюся, што яшчэ напярэдзе.

**Тамаш РАКСА**

**Наступны сход** нью ёркаўскага аддзелу БАЗА адбудзецца ў нядзелю, **12 лютага 2006 году** ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага па адрасу:

***401 Atlantic Avenue (Bond Street), Brooklyn, NY 11217***

Пачатак апоўдні, 12:00 пасьля літургіі ў Саборы. Запрашаюцца ўсе, каму неабыякавыя свабода і дэмакратыя ў Беларусі.

Даезд падземкаю A, C да станцыі *Hoyt-Shermerhorn St.*, або падземкай F да станцыі *Bergen St.*

## Прыватная абвестка

Беларуска 24-х гадоў невялікага росту і вагі, вясёлага дабразычлівага характару хоча пазнаёміцца зь беларусам да 35-ці гадоў для сяброўства і супольнага правядзеньня вольнага часу ў беларускім асяродзьдзі. Тэлефануйце Алесі па тэл. (347) 743-0758.

Сьвятар і парафіяльная рада Катэдральнага Сабору Сьв. К. Тураўскага БАПЦ ў Брукліне па адрасу: *401 Atlantic Ave* запрашаюць вас на Божыя службы кожную нядзелю а 10-й гадзіне раніцы.

**Наша фанатэка**

# Прэм'ер Тузін 2005:

## лепшая беларуская музыка на адным дыску




Калі маладыя музычныя адмыслоўцы-энтузіясты, аб'яднаныя ідэяй пашырэньня ведаў пра беларускамоўны рок, вырашылі аднавіць традыцыю правядзеньня музычных парадаў цяперака ўжо ў Сусьветным Павуціньні, то яны, здаецца, і самі ня поўнасьцю ўяўлялі канчатковыя вынікі сваёй задумы. Але пасьля некаторага часу існаваньня гэтага гіт-параду , які быў названы імі "Тузін Гітоў" на www.music.fromby.net, рэальны вынік не прымусіў сябе чакаць. Ён зьявіўся ў выглядзе дыска-складанкі зь лепшымі кампазыцыямі, што былі ў ратацыі на "Тузіне Гітоў" ў сэзоне 2004-2005.

Вядома, што наведвальнікі інтэрнэту – людзі абазнаныя ня толькі ў палітычных, сацыяльных і гістарычных пытаньнях, але і ў шмат якіх мастацкіх зьявах – літаратуры, кіно, выяўленчым мастацтве і, канешне-ж, у сучасных напрамках рок-музыкі. Мо таму, дзякуючы густу і актыўнасьці карыстальнікаў сеціва, на вяршыню "Тузіна Гітоў" заўсёды траплялі самыя вартыя, арыгінальныя і паказальныя кампазыцыі як маладых, так і сталых гуртоў, са сталіцы і з рэгіёнаў Беларусі.

Ініцыятарам і вядучым гіт-параду заставалася знайсьці магчымасьць сабраць усе лепшыя кампазыцыі ў адну складанку, каб пазнаёміць зь імі больш шырокія колы слухачоў, для якіх інтэрнэт – справа будучыні.

І вось вынік супольнай працы вядучых "Тузіна Гітоў" і выдавецкай кампаніі "Вэстрэкардс-Плюс" – дыск "Прэм'ер Тузін 2005" – зьявіўся ў музычных крамах Беларусі.

Пасьля таго, як выніковы дыск зь лепшымі кампазыцыямі 2004-2005 гадоў патрапіць ў ваш кампутарны прайгравальнік, вы зразумееце арыгінальнасьць і своечасовасьць задумы складальнікаў гэтай кампіляцыі. Па-першае, усё музычнае начыньне дыску "запакавана" ў вельмі зручную мультымэдыйную абалонку. На складанцы, акрамя лідэраў муз-параду "Тузін Гітоў-2005" у CD-фармаце, есьць здымкі гуртоў, а таксама цудоўны падарунак мэляманам – запісы ў фармаце mp3 яшчэ трох дзесяткаў кампазыцыяў беларускамоўнай поп- і рок-музыкі, што былі ў ратацыі на "Тузіне Гітоў", але не ўзначальвалі сьпісы лідэраў.

Упэўнены, у кожнага наведвальніка "Тузіна Гітоў" на music.fromby.net ёсьць своя любімая песьня з гэтага дыску. Але якая музыка ўвогуле больш прыцягвала ўвагу беларускіх аматараў року летась? На гэтае пытаньне дасьць адказ праграма, складзеная з песьняў-лідэраў "Тузіна Гітоў-2005".

Відавочна, што, як і раней, беларускім слухачам былі больш даспадобы мэлядычна яркія, экспрэсіўныя песьні, у якіх тэкст уяўляў не проста набор няўцямных рыфмаў і мэтафараў, а які даваў падставу для разважаў, адкрываў новыя інтэлектуальныя далягляды, даваў імпульс для ўнутранай палемікі. Гэтымі фактарамі тлумачыцца лідэрства такіх кампазыцыяў, як "Белакрылы анёл" гурту "Zet", "Вышэй" "IQ48" і А. Памідорава, "Лякарня" гурту "Zygimont VAZA".

Летась таксама віталіся ўдалыя "камбэкі"-вяртаньні. Маю на ўвазе непадобны на іншых гарадзенскі гурт "Айша" і іх песьню "Чорны барон". Слухачы-ж добра памятаюць папулярнасьць іхняй рок-футурыстычнай "Ёкагамы" са складанкі "Вольныя танцы: альтэрнатыва_by" (2001).

Рамантычныя настроі слухачоў летась былі падмацаваныя сапраўднымі майстрамі лірычна-баляднага напрамку беларускай рок-музыкі – Зьміцерам Вайцюшкевічам ("Вясновы дзень"), салістамі гуртоў "Partyzone" і "Indiga" адпаведна Д. Вячэрскім і Русяй ("Маё сэрца"), а таксама гуртом "J_Морс" і іх беларускамоўным гітом "Так-цік-так".

Затое, прагу да весялосьці задавальнялі рытмічна-саркастычнымі кампазыцыямі "Жыцьцё" і "Турысты" гурты "Neuro Dubel" і "Крамбамбуля".

Наведвальнікі парталу "Тузін Гітоў" шмат салідарнасьці й увагі выказвалі і творчасьці маладых беларускамоўных камандаў, бо бачылі ў іх будучыню нацыянальнага рок-руху. І іх выбарам ў гэтым сэзоне сталі песьні "Людзі" гурту "Indiga", "Сьпіралі" ":B:N:" і адкрыцьцё гэтага дыску – кампазыцыя "Атлянтыда" музычна-правакацыйнага праекту "UltraВожык"...

Калі зьвярнуцца да праграмы mp3-часткі гэтай складанкі, то можна адзначыць, што яна – сапраўды, люстэрка музычных трэндаў, якія дамінавалі ў 2004-5 гадох на айчыннай рок-сцэне.

Па-першае, беларускія музыкі ў гэтым сэзоне ў асноўным арыентаваліся на мэйнстрым ("галоўную плынь") беларускага рок-руху і на "Тузіне Гітоў" творы эксьпэрымэнтальнага кшталту зьяўляліся ня часта. Гэта тлумачыцца падсьвядомым імкненьнем да пашырэньня слухацкай аўдыторыі, да большага ўплыву на яе праз запамінальны мэлядызм, вострыя тэксты й прыгажосьць беларускай мовы.

Стылёвай карэляцыяй паміж поп-рокам і тутэйшай-дзяржаўнай эстрадай можна патлумачыць зьяўленьне на "Прэм'ер Тузіне 2005" папсовых кампазыцый "J_Морс", Ганны Мушак і Ірыны Дарафеевай, якіх часьцей можна пабачыць на заблытаных "Скрыжаваньнях Эўропы", чым сярод заўсёднікаў «Тузіна Гітоў».

Вялікую долю mp3-часткі новага дыска складаюць сучасныя апрацоўкі беларускага фальклёру, фольк-мадэрн-кампазыцыі й уласныя творы ў гэтым рэчышчы ад гуртоў "Палац", "P.L.A.N.", "Postscriptum", фольк-дуэту "Аляксандра і Канстанцін", "Этна Трыо Троіца", "Старога Ольсы". На дыску апублікаваны нават музычны рарытэт – апрацоўка беларускага фальклёру "Страла" ад музыкаў праекту загінуўшага ў Маскве Васіля Шугалея "БазЫлькі". І хоць гэтыя творы не заўсёды ўзначальвалі сьпісы папулярнасьці, слухачы "Тузіну Гітоў" ахвотна ўслухоўваліся ў тыя мэлёды й рытмы, што прыйшлі да нас "праз смугу стагодзьдзяў".

На дыску прадстаўлены і новыя тэндэнцыі ў фольк-мадэрне: dj-скія апрацоўкі народных мэлёдыяў і аранжыроўкі іх у модных электронных накірунках. Упэўнены, што "Медуніца" ад "Guda" ў аранжыроўцы T-Trider & Maks Retort, а таксама сумесная творчасьць дуэту "Яр" і гурту "Logica Metro" будуць слухацца з цікавасьцю тымі, хто ведае, што такое drum-n-bas ці tech-house не па стылістычным даведнікам, а па адметнаму гуку і рытміцы дыскатэк.

Відавочна, што ўвесь гэты час, спрасаваны й адлюстраваны на дыску "Прэм'ер Тузін 2005", айчынныя рок-музыкі працягвалі пошук шляхоў беларускай самаідэнтыфікацыі, імкнуліся зрабіць больш, каб іх песьні сталі нацыянальнымі ня толькі з моўнага пункту гледжаньня, але былі такімі глыбінна – і тэматычным, і мэлядычным строем падкрэсьлівалі нацыянальную прыналежнасьць.

Нельга не адзначыць трывалыя пазыцыі як раз у тым, што ёсьць нацыянальныя арыенціры ў музыцы, нашых вэтэранаў – гуртоў "Крама" і Ігара Варашкевіча асабіста, "Ulis", "WZ-orkiestra" і Зьміцера Вайцюшкевіча, Піта Паўлава і гурта "Garadzkija", Валіка Грышка, Лявона Вольскага. Яны, як тыя волаты, непарушна стаяць на варце нацыянальнага ў айчынным рок-руху. І сваім "стаяньнем" дапамагаюць захоўваць сучасную беларускую культуру ад згубы, у якую яе кідаюць мясцовыя "інтэгратары". Маладым камандам "Siver", "IceCreamoff", "Vodar Susviet" ёсьць з каго браць прыклад, і таму свой шлях ў творчасьці яны пераадольваюць больш вынікова. Таму іх музыка арганічна слухаецца на тле вэтэранаў, не саступае ім, прынамсі, у імпэце творчага руху...

На прэс-канфэрэнцыі, прысьвечанай выхаду складанкі "Прэм'ер Тузін 2005" вядучы радыё-вэрсыі гэтага гіт-параду на FM-радыё "Мінск", лідэр гурту "Палац" Алег Хаменка параіў слухачам адносіцца да новага дыска не як да альбому, а як да складкі, а таму – слухаць кампазыцыі выбарачна: у залежнасьці ад настрою пераходзіць ад адной песьні да другой. Але, усё-ж, гэты дыск дае слухачам і іншую магчымасьць – пазнаёміцца з усёй панарамаю беларускамоўнага рок-руху. Бо менавіта так можа ўзьнікнуць разуменьне той музычнай зьявы сучаснай Беларусі, якую прээнтуюць выдаўцы "Прэм'ер Тузіна 2005". Цяпер ўжо ў эўрапейскім кантэксьце.

***Анатоль МЯЛЬГУЙ,***
***музычны аналітык***

# Помнік ахвярам камунізму

Ужо некалькі гадоў у Вашынгтоне працягваецца акцыя дзеля ўшанаваньня памяці мільёнаў людзей па цэлым сьвеце, якія сталіся ахвярамі камунізму ў мінулым стагодзьдзі.




Амэрыканскі Кангрэс аднагалосна прыняў рэзалюцыю пастацівіць помнік ахвярам камунізму ў цэнтры сталіцы Злучаных Штатаў Амэрыкі. Адпаведнае месца для мэмарыялу было выбрана на скрыжаваньні Масачусэтс Авэню і Нью Джэрзі Авэню. У цэнтры мэмарыялу будзе стаяць статуя, якая нагадвае Статую Дэмакратыі з Плошчы Тыянанмэн і амэрыканскую Статую Свабоды. На п'едэстале статуі будзе наступны надпіс:

***To the more than one hundred million victims of communism and to those who love liberty.***

(прысьвечана больш за сотні мільёнаў ахвяраў камунізму і ўсім тым, хто цэніць свабоду)

Кошт помніка павінен скласьці $590 000, што ўключае статую, пабудову адпаведнага наваколья ды сродкі на ўтрыманьне. Бальшыня сродкаў ужо сабраная, аднак засталося здабыць яшчэ $155 000 ад грамадзтва, каб можна было пачаць адліваць статую з бронзы і закончыць рэшту праекту. Заснаваная адмысловая Фундацыя, якая заклікае грамадзтва ўзяць удзел у акцыі ўшанаваньня памяці ахвяраў камунізму, тых мільёнаў, якія загінулі ў гулагах Савецкага Саюзу, забойных палях Камбоджы ці на Берлінскім муры, і якія яшчэ ўсё гінуць у Паўночнай Карэі, Кубе і Кітаі.

Ахвяраваньні любога памеру можна слаць на адрас Фундацыі:

***The Victims of Communism Memorial Foundation***
***1521 Sixteenth Street, NW***
***Washington, DC 20036***



Асобы або арганізацыі, якія ахвяравалі больш як $1000 будуць запрошаныя на ўрачыстае адкрыцьцё помніка. Іхнія прозьвішчы (назвы) будуць таксама зьмешчаныя ў Віртуальным Музэі помніка.

(Ахвяраваньні на гэтую мэту звольненыя ад падаткаў.)

# Францішь БАРТУЛЬ

## (15.11.1918 - 4.12.2005)



4 сьнежня 2005 году адыйшоў у лепшы сьвет вядомы дзеяч беларускай эміграцыі ФРАНЦІШ БАРТУЛЬ, сын Аляксандана й Адэлі з Азерскіх, які нарадзіўся 15 лістапада 1918 году ў вёсцы Бярозкі ля Прыдруйску (Латвія). Па веравызнаньню - каталік.

Скончыў Прыдруйскую пачатковую школу, а потым (1938) сярэднюю школу ў Дзьвінску. У часе вакацыяў "ганяў па Дзьвіне ганкі ў Рыгу" (прaцаваў падручным плытніка на лесасплаве).

Падчас савецкай акупацыі Латвіі (1940) быў перакладчыкам. З 1940году – у савецкім войску.

На пачатку Другой сусьветнай вайны быў у складзе аддзелу, які займаўся эвакуацыяй сем'яў і маёмасьці савецкага кіраўніцтва Латгаліі. Гэтае-ж кіраўніцтва не ўзяло яго на апошні цягнік. ("Сказалі, што няма месца й пакінулі са зламаным пісталетам у руцэ".). З прыходам немцаў (1941) выехаў у Нямеччыну на працу, адкуль неўзабаве вярнуўся й паступіў у "Беларускую Вучыцельскую Сэмінарыю ў Вільні" (1942). Па сканчэньні сэмінарыі (1944) працягнуў навучаньне ў Менскай Беларускай Афіцэрскай школе,але правучыўся там ня доўга. Якдобры знаўца нямецкае мовы быў запатрабаваны на пасадзе перакладчыка пры галоўным штабе генэрала Францішка Кушаля.



Падчас савецкага наступу на Каралевец (Кёнігсбэрг) працаваў там у камітэце самапомачы: выдаваў дакумэнты суайчыньнікам, якія ўцякалі ад Саветаў на Захад.

У 1945 годзе пры дапамозе біскупа Баляслава Слоскана,паступіў на філязофскі факультэт Мюнхэнскага каталіцкага ўнівэрсытэту, адкуль неўзабаве перайшоў у Грыгарыянскі ўнівэрсытэт у Рыме.

З 1946 году – у Лёндане. Вывучаў дантыстычную тэхналёгію (выраб зубных пратэзаў і каронак) і ўрэшце адчыніў сваю справу. У 1948 годзе ўзяў шлюб з актывісткаю беларускага руху на эміграцыі Вераю Касьцюкевіч.

Ад пачатку 1956 году,разам зь сям'ёй, пераехаў у ЗША, дзе заснаваў дантыстычна-тэхналягічную карпарацыю "A-rite".

У 1996 годзе выйшаў на пэнсію.

Усё сваё сьвядомае жыцьцё Францішь Бартуль нястомна працаваў на ніве беларушчыны. У 1949 – 1950 гадох кіраваў Згуртаваньнем Беларусаў Вялікай Брытаніі. На працягу некалькіх дзесяцігодзьдзяў быў сябрам Рады БНР, узначальваў Фундацыю імя П. Крэчэўскага ў Нью-Ёрку й адначасна зьяўляўся заступнікам старшыні БАЗА (Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня). Стала дапамагаў новым палітычным эмігрантам з Бацькаўшчыны атрымаць прытулак у ЗША.

7 сьнежня Францішь Бартуль быў пахаваны на Беларускіх моплках у Іст-Брансўіку, Нью Джэрзі. Паніхіду па нябожчыку адслужыў айцец Вячаслаў у будынку Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Сьв. Кірылы Тураўскага на Атлянтык Авэню (Бруклін).

Род Бартулёў на зямлі Злучаных Штатаў працягвае сын Антон з жонкаю Нікол і ўнучкаю Наэл. Ягоны змагарны бел-чырвона-белы сьцяг пераняла дачка Ганна з сынамі Сьветавітам і Славамірам.

# ТАЛЕНТ

(эсэ)

**Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ**

*"Ён быў бацькам для ўсіх беларусаў, якія ня мелі бацькі".*
**(Зьміцер ЛЕВІТ)**

Ён памёр а 1:30 ночы. Памёр спакойна, шляхетна, годна, без фізычнага болю, бо месца гэтага болю было занятае іншым болем... Болем за Беларусь.

Усё жыцьцё ён быў пераканаfamы, што Бог ня даў яму ніякіх талентаў, ніякіх здольнасьцяў, якія выяўляюцца ў чалавека часінай эмацыйнага ўздыму, глыбокай пакуты або раптоўнага шчасьця, пра што можна выразна й непаўторна распавесьці навакольнаму сьвету з дапамогаю музыкі, сьпеву, пэндзаля ці рымаваных радкоў.

Як часта мы азіраемся на вартасьці вялікіх. Як часта, уявіўшы сябе побач зь імі, чуемся слабымі, мізэрнымі й маладзольнымі. Як часта праз гэткія-ж акуляры разглядаем мы сваіх бліжніх, сумна паўтараючы фальклёрную ману, што Бог ня роўна дзеліць. Але як можа дзяліць той, хто аддае ўсё? Хто ад нараджэньня надзяляе чалавека ўсім існым аж да магчымасьці ўжываць атрыманае на выбар – як заўгодна?

Таму, няма людзей пазбаўленых таленту. Іншая рэч – на колькі мы ўсьведамляем сябе таленавітымі, наколькі ўмеем разглядзець і ацаніць дадзенае ды як карыстаем зь яго.

Францішь Бартуль свайго таленту талентам не лічыў, а таму мог спакойна пакінуць яго недзе на пэрыфэрыі жыцьця й застацца ў нашай памяці проста неблагім дзядзькам... Так бы яно, напэўна, і сталася, калі-б не адное але...

"Я ўжо досыць пажыў сярод латышоў, немцаў, расейцаў, а таксама златышаных і абмаскаленых беларусаў, пакуль адночы не патрапіў у асяродзьдзе беларусаў сьвеламых, згуртаваных вакол нацыянальнай ідэі. Вядома, хапала тут розных: спакойных, амбітных, пыхлівых і ганарыстых, ціхіх і рахманых, нэрвовых і запаволеных, ну... як і ў кожным народзе. Але толькі сярод іх я пачаў чуцца чалавекам, бо ніхто зь іх не глядзеў на мяне падзрона, ніхто не лічыў ніжэйшым, а тыя, празьмерна амбітныя да сваіх, якія ўсё-ж трапляліся, былі... нашымі".

У гэтых умовах спадар Бартуль, "не здаючы справы", разьвіў у сабе ці ня самы просты, а таму найбольш складаны талент, талент які не сілкуецца натхненьнем, або асаблівымі абставінамі, а мусіць выяўляцца штодзённа, штохвілінна. Дзякуючы гэтаму, кожны чалавек, які хаця-б раз сутыкнуўся з спадаром Францішом – запамінаў яго назаўсёды, як асобу, надзеленую талентам Быць Чалавекам.

Беларус па крыві й па духу ён лёгка размаўляў па-латыску, па-польску, па-нямецку, -ангельску, -расейску, ды на лаціне. У Злучаных Штатах ягонымі партнэрамі ў працы й сябрамі ў жыцьці (апрача сваіх) былі індус, кітаец, ямайкіец і сіцыліец. Яны паважалі й любілі ў ім майстра-беларуса, па ім ацэньвалі наш народ, як, пазіраючы на нас, ацэньваюць яго і нашыя атачэньні.

Будучы каталіком, з аднолькавай пашанай ставіўся ён да прадстаўнікоў самых розных канфэсіяў, бо найперш ацэньваў іх паводле чалавечнасьці. Маючы жонку вуніятку, з прыемнасьцю йшоў у Беларускія праваслаўныя храмы.

Стары мяноклíч "Беларусь – перадусім" быў для яго адным з асноўных жыцьцёвых прынцыпаў, падмуркам ягонай людзкасьці, ягонай сілаю і ягонай слабасьцю. "Беларушчына – гэта хвароба, якой немагчыма пазбыцца ніколі," – казаў ён, і я разумеў, што для яго была яна з таго самага шэрагу хваробаў, што й каханьне да жонкі, любоў да дзяцей ды ўнукаў, павага да іншых і да самога сябе.

Мы, беларусы (пра астатніх не кажу, бо ня ведаю) маем досыць дзіўную лёгіку: "нам не ўдалося, – кажам мы, – можа хоць дзеці ці ўнукі пажывуць". Францішь Бартуль глядзеў на гэта інакш. Дабрабыт дзяцей і ўнукаў ён узалежніваў ад свайго. "Я мушу жыць добра, тады й нашчадкі будуць ня горш". Зразумела, гэткім падыходам хацеў-бы ён ацэньваць жыцьцё ўсёй Беларусі. Таму й стараўся дапамагчы. Каму – добрым словам, парадаю, а каму й грашыма, таму й верыў у прыродны розума беларуса, які, поруч з жыцьцёвым досьведам, мусіў-бы даць не абы які плён.

Калі Беларусь ізноў здабыла незалежнасьць, Францішь Бартуль разам зь некаторымі эмігрантамі ягонага веку сур'ёзна абмяркоўваў пытаньне доўгатэрміновага выезду на Бацькаўшчыну. Кожны хацеў распачаць там сваю справу, дабрачынна перадаць сваё прафэсыйнае майстэрства маладым суайчыньнікам. Нажаль, "паўторны наступ антыбеларускіх сілаў" зламаў гэтыя пляны... Вера ў свой народ пачала набываць пэсымістычную афарбоўку, што, аднак, не перашкаджала дапамагаць кожнаму чалавеку, які зьвяртаўся па дапамогу. "Ты не ўяўляеш, якая гэта прыемнасьць мецъ, але я ніколі ня думаў, што куды большая прыемнасьць аддаваць".

Тыя, хто сутыкаліся з Францішом Бартулём у апошнія год-два ягонага жыцьця, змушаныя былі пачуць шмат горкіх словаў і ацэнак адносна падзеяў на Бацькаўшчыне. Найбольш балючым было для яго пытаньне беларускай мовы й школы. Сёй-той успрымаў ягоную брутальную крытыку як расчараваньне, сёй-той – як пэсымізм. Спадар Францішь злаваў на тое, што народ не бароніць беларускага школьніцтва, што масава не ўжывае роднай мовы. Ён справядліва бачыў праблему ня толькі ва ўладзе, ня толькі ў дыктатуры. На тлумачэньні, што многія людзі ў Беларусі ня думаюць як размаўляць, а думаюць як выжыць, спадар Францішь нэрвова адказваў, што бяз роднай мовы ніколі-б ня выжыў і ніколі-б не зрабіўся ў замежжы тым, кім ён ёсьць.

Прыгадваючы гэта, я думаю, што ягоны пэсымізм быў усё-ж роднасным пэсымізму Быкава, які сказаў: "Я пэсыміст, які прагне, каб ягоны пэсымізам быў абвергнуты жыцьцём".

За дзень да сьмерці спадар Францішь ячэ гаварыў. "Што там у Беларусі?" Я распавёў. Ён паслухаў і адказаў мне ўспамінам з маладосьці, калі сьведамы шлях да мовы толькі пачынаўся, а талент Быць Чалавекам знаходзіў бязьлiч прыкладаў...

"Я прыйшоў паступаць у Віленскую Беларускую гімназію. Падаў дакумэнты. А там з кожным новым студэнтам размаўляў дырэктар Францішак Грышкевіч. Выклікаў ён мяне. Пачынае пытаць пра паходжаньне, чым займаўся, што ўмею. Я адказваю, а ў галаве ўвесь час думка: як разьвітацца па-беларуску? На іншых мовах памятаю, а на сваёй – не. Ну, скончылі мы гаварыць. Грышкевіч павіншаваў мяне з залічэньнем, пачаў складаць на стале паперы. Я стаю. Выйсьці моўчкі – не выпадае. Гэх, думаю, будзь што будзе, і кажу: "Да сьвіданьня". Ён галаву ад стала падняў і глянуўшы на мяне адказаў: "Бывайце, спадар Бартуль". Ніколі гэтага не забуду. Што за цудоўны быў чалавек!"

У дзень сваёй сьмерці спадар Францішь ужо ня мог гаварыць. Хвароба забрала ў яго самае дарагое, што ён меў – мову – апошнюю жыцьцёвую цьвердзь, пасьля якой ужо нішто не магло дапамагчы ці абараніць...

Ён лёг на Божую пасьцелю а 1:30, і на вуліцы пайшоў сьнег. Першы сьнег новай зімы – чысты аркуш, скрыжаль, на якой убачыліся мне напісаныя рукой нябожчыка сем правілаў ягонага жыцьця:

1. Любі Беларусь – гэта значыць будзь самім сабою.
2. Шануй сваю мову – гэта значыць не губляй годнасьці й павагі іншых.
3. Здабывай асьвету – значыць ствараў падмурак свайго жыцьця й дабрабыту.
4. Дапамагай кожнаму, хто апынуўся ў бядзе – гэта значыць ня будзь бедным.
5. Будзь дыпляматам – гэта значыць умей сказаць праўду не абразіўшы пана.
6. Будзь практычным для сябе й рамантыкам для іншых – гэта значыць даваляй ім быць тымі, кім яны ёсьць.
7. Будзь удзячным – гэта значыць радуйся, што ў сэрцы і ў думках маеш сям'ю, народ, Бога.

А сьнег ішоў, усьцілаючы абшары мяккімі бухматымі хлапякамі. Яны раставалі на ваконных шыбінах, сьцякаючы разьвітальнымі сьлязьмі жалю й болю. Яны дапісвалі апошнія радкі ў жыцьцяпісе таленавітага Чалавека Францішa Бартуля.

Наш век, які-б ня быў, – заўжды кароткі,
Хай, нават той, што думкай не абняць...
А першы сьнег прыйшоў як душы продкаў,
Прыйшоў ячэ адну душу прыняць.

І трэба жыць жывым, сабраўшы з духам,
Бо шэпча сьвет нібыта спакваля:
Як Бог дарогу выслаў белым пухам –
То значыць пухам будзе і зямля.

***4 – 16 сьнежня 2005 г. Нью-Ёрк***



Дарагія сябры, аднадумцы, суайчыньнікі, вясёлых Вам Калядаў і шчасьлівага Новага году! Хай 2006 год стане годам Свабоды для Беларусі й для кожнага з нас!

Шчыра ***Вінцук ВЯЧОРКА***



Кансысторыя БАПЦ і парафія царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд Парку, Н. Дж., віншуе сваіх вернікаў і ўсіх суродзічаў з Раством Хрыстовым і жадае вясёлых сьвятаў і шчасьлівага Новага 2006 году.



Жадаю чытачом "Беларуса" і вернікам БАПЦ, парафіі ў Таронце, радасных Калядаў і добрага Новага году!

***Кастусь АКУЛА***



Архіяпіскап Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Народнай Царквы ЮРЫ й сьвятары ў Беларусі вітаюць сваіх вернікаў і прыхільнікаў з Раством Хрыстовым і жадаюць вытрываласьці на Божай ніве.



Дарагія суродзічы!

Віншуем з Новым годам і Калядамі!

Няхай Калядны сьвяты вечар сагрэе цяплом Вашыя сэрцы і падорыць надзею на цуд у Новым 2006 годзе. З чыстым зьзяньнем Батлеемскай зоркі няхай прыйдзе ў кожны дом цяпло, сьвятло і згода!

Зычым шчасьця, здароўя, дабрабыту, узаемаразуменьня і сяброўскай падтрымкі! Няхай мацнеюць нашыя стасункі і нашая еднасьць!

Вясёлых Калядаў і спрыяльнага Новага году!

***Рада Латвійскага таварыства беларускай культуры "Сьвітанак"***

## З Раством Хрыстовым!

У гэты дзень людзі сьвяткуюць нараджэньне Госпада Ісуса Хрыста. Праўда, у Біблі нідзе не напісана, каб мы сьвяткавалі Дзень нараджэньня Ісуса Хрыста ці ўспаміналі гэты дзень.

І на самай справе нам невядомы Ягоны дзень нараджэньня. У гэтай краіне сьвяткуюць 25-га сьнежня. Ёсьць хрысьціяне, якія сьвяткуюць 3-га студзеня. У Беларусі гэта робяць 7-га студзеня, але ў некаторых мясцовасьцях сьвяткуюць 25-га сьнежня.

На Раство Хрыстова людзі дараць падарункі адзін другому, але гэта ня іх дзень нараджэньня. У гэты дзень нарадзіўся Хрыстос, і Ён чакае ад нас падарунка.

Які падарунак мы можам падарыць Яму?

Мяркую, што выкананьне Ягонага Слова і ёсьць адзін з самых вялікіх падарункаў. Хрыстос пакінуў нам Свае запаветы. У Эвангельлі паводле Мацьвея 5-ты раздзел 13–14-ты вершы напісана:

"Вы — соль зямлі.
Вы — сьвятло сьвету."

І той, хто выконвае Хрыстовыя запаветы, прыносіць Яму вялікі падарунак.

Вельмі важна падчас Калядаў у мітусьні, занятасьці, у прыгатаваньнях і сьвяткаваньнях не забыцца пра падарунак Хрысту.

Дабраслаўенных Калядаў!

***Сям'я ВАКУЛІЧ***



Міхась КАРАНЕЎСКІ зь сям'ёю віншуюць ўсіх крэўных, сяброў і суайчыньнікаў, з Калядамі й Новым 2006 годам.

Надзея НЯПЕЙН віншуе блізкіх, сяброў і прыяцеляў з Новым годам і Раством Хрыстовым і зычыць здароўя і посьпехаў.



Віншуем усіх суродзічаў з навагоднімі й каляднымі сьвятамі! Жадаем здароўя і памыснасьці ў справах.

***Ніна і Алека СІЛЬВАНОВІЧ***



Віншую ўсіх крэўных, сяброў і прыяцеляў з Раством Хрыстовым і жадаю здароўя і памыснасьці ў Новым годзе.

***А. МАРКЕВІЧ***



Навагоднія і калядныя віншаваньні й найлепшыя пажаданьні шлюць сваім сябрам і знаёмым Каця РЭЗЬНІКАВА і Серж ТРЫГУБОВІЧ.



# Маладзёвы сэмінар

У суботу, 28 судзеня 2006 году ў Фундацыі імя П. Крэчаўскага, якая знаходзіцца па адрасу:

***166-34 Gothic Drive (і 167 St.), Jamaica (Queens), NY 11432,***

адбудзецца адкрыты маладзёвы сэмінар, прысьвечаны пытаньням беларускай моладзі ў ЗША. Шырокае абмеркаваньне ў форме тварыскай гутаркі закране надзённыя справы моладзі, патрэбу стварэньня маладзёвай арганізацыі.

Пачатак сэмінару а 10:30 раніцы.

Запрашаем усіх маладых людзей, каму неабыякавая беларуская справа, і хто хацеў-бы далучыцца да актыўнейшай грамадзкай дзейнасьці сярод моладзі.

Даезд падземкаю F да прыпынку *169 Street*. Ад станцыі трэба прайсьці два блёкі напоўнач па 167 вуліцы да *Gothic Drive*, дзе на рагу стаіць будынак Фундацыі. Яго можна пазнаць па бел-чырвона-белым сьцягу ля дзьвярэй, які вывешваецца падчас імпрэзаў.

Шчыра віншуем Янку КАЦЯРЫНЧА з Аляскі й Анатоля ХРЭНОЎСКАГА з Квэбэку з Калядамі й Новым годам і зычым усяго найлепшага!

***Сябры зь Менску***

***Газэта "БЕЛАРУС"***

***бясплатна надрукуе кароткія аб'явы некамэрцыйнага характару, віншаваньні, запрашэньні, спачуваньні ды інш. Наконт разьмяшчэньня рэклямы кантактуйце рэдакцыю.***

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

А. Занковіч .150
П. Касаты .100
Л. і М. Сагановіч .100
Г. Руднік .75
М. Баяроўскі .55
М. Каранеўскі .55
С. Трыгубовіч .55
Г. Гаўліміс і П. Ландаў .52
Кансысторыя БАПЦ .50
Парафія БАПЦ у Гайл. Парку. 50
К. і Я. Вініцкія .50
А. Кабяка .50
Р. Качаткоў .50
У. Маньдзік .50
Спн. Азарка .35
Н. і А. Вакуліч .30
М. Віхраў .30
А. Губэрт .30
І. Кісель .30
А. Кузьміч .30
В. Мароз .30
В. Нікіфаровіч .30
П. Паныш .30
А. Пранцэвіч .30
А. Пугачоў .30
А. Субота .30
К. Целяжэнка .30
А. Яраховіч .30
Н. Няпейн .25
Н. і А. Сільвановіч .25
А. Маркевіч .10

**Справаздача ад Міхася ЛУЖЫНСКАГА з Аўстраліі:**

М. Лужынскі. . .аўстр. $. .308

Др. В. Качан .200
В. Нарушэвіч .100
Л. Бакуновіч .60
Г. Падгайская .60
А. Парэцкая .60
В. і В. Русак .60
В. Ліпскі .60

**Заміж кветак на магілу Францішка БАРТУЛЯ:**

С. Мурог .200
Л. і Ю. Кіпель .150
М. Каранеўскі .50
Л. Шурак .50

**Заміж кветак на магілу Янкі АЗАРКІ:**

Л. і Ю. Кіпель .150

**Усім шчыры дзякуй!**


**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае штомесячна:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
Сусьветнае сеціва: *baza-belarus.org*
Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published monthly by
***Belarusan American Ass'n, Inc.***
Subscription $30 yearly
Make checks payable to ***BIELARUS***

Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ
Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.



Адрас для допісаў і кантактаў:
***BIELARUS***
***P.O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
E-mail:
***hazetabielarus@att.net***
Сусьветнае сеціва:
***www.bielarus.org***

ISSN 1054-9455